Год II. — № 18. Пятніца, 6-га траўня (апрэля) 1921 г. Цана нумару 6 марак.

# НАША ДУМКА

ПАЛІТЫЧНАЯ, ЭКАНАМІЧНАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ТЫДНЁВАЯ ГАЗЭТА.

У газэце супрацоўнічаюць: НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА, Г. Б., ГЕННАДЗІЙ БОГДАНОВІЧ, ВІЛЯНЧУК, МАКСІМ ГАРЭЦКІ, А. ДМАХОУСКІ, АЛЕСЬ КАБЫЧКІН, КРАУЦОУ МАКАР, ДЗЕД КУЗЬМА, М. К-Ч, А. МСЬЦІСЛАУСКІ, ІВАН МЯЛЕШКА, АНТОН НАВІНА, АДАМ САЛАДУХ, КАЗІМІР СВАЯК, СТАНІСЛАУ ЧЫЖЭУСКІ і інш.

Адрэс рэдакцыі і канторы: Вільня, Вострабрамская, 9.

Цэны абвестак: за адзін радок самага дробнага друку на апошняй страніцы 10 польскіх марак.

Падпіска: на 3 месяцы 100 польскіх марак або 5 хунтаў мукі.

## Грамадзяне!

Мы разьлічалі на грошы з Амэрыкі, але яны яшчэ ня прыйшлі і невядома калі прыдуць. Матар'яльнае становішча „Нашае Думкі“ цяпер надта цяжкое: плата аўторам самая мізэрная, ледзь хапае грошы на друк і на паперу. Мы ўжо ня можам адбіваць болей нумароў, каб пашыраць газэту сярод несьвядомых. Надалей прыдзецца або выпускаць газэту без укладнога лісту, або зусім на нейкі час зачыніцца. Калі ня хочаце, каб гэтак здарылася,—памажэце падпіскай ці складаньнем падмог.

**„Наша Думка“.**

## Бяз нас.

Палітыкі ўсяго сьвету, а перад усім польскія, літоўскія і беларускія шукаюць спосабаў, каб выйці з утварыўшагася ў нашым краі палажэньня.

Да апошняй пары патрэбнага выхаду яшчэ ня знойдзена, але усёжтакі трэба прызнаць, што справай нашага краю ў апошнія дні заняліся і ў Заходняй Эўропе, і ў Варшаве, і ў Вільні, і ў Коўні з большай энэргіяй і з большымі надзеямі на тое ці іншае яе вырашэньне.

Пасьля польска-бальшавіцкага міру ў Рызе, падзяліўшага Беларусь паміж Польшчай і Расеяй, палажэньне ў нашым краі, трэба прызнаць, грунтоўна зьмянілася. Бальшавікі афіцыяльна адмовіліся ад усякага умешваньня ў польска-літоўскую спорку з-за Віленшчыны і Горадзеншчыны, тады як да Рыжскай умовы Чычэрын многа разоў падкрэсьліваў у сваіх нотах да Сапегі, што Савецкая Расея лічыць сваім правам і абавязкам бараніць Літву супроць спробаў Польшчы адабраць ад Літвы землі (Віленшчыну і Горадзеншчыну), уступленыя Расеяй Ліцьве.

Такім чынам, па Рыжскай умове, Савецкая Расея, як важны палітычны фактар, абвесьціла сябе незаінтарэсаванай у тым ці іншым вырашэньні пытаньня аб Віленшчыне і Горадзеншчыне.

Спор увайшоў у новую фазу, у якой і астаецца да апошняга дня,—гэта ёсьць спроба пры помачы Лігі Нацый наладзіць беспасрэдныя перагаворы Літвы і Польшчы, каб дайсьці паміж імі да згоды. Магчыма, што абедзьве староны прыдуць да згоды, якая і Польшчы і Ліцьве, безварункова, патрэбна і адсутнасьць якой вельмі шкодна адбіваецца на інтарэсах абедзьвюх супярэчніц. Але якім спосабам дабіцца гэтай згоды? Некаторым палітыкам здаецца, што найпрасьцейшы спосаб—гэта падзел спорнай тэрыторыі паміж Літвой і Польшчай: Вільня—Ліцьве, Горадня—Польшчы. Больш трудны спосаб: усё — Ліцьве, пад варункам фэдэрацыі яе з Польшчай.

Разумеецца, нам — беларускім незалежнікам, каторым ходзіць аб стварэньні Беларускай дзяржавы у межах этнографічнага расьсяленьня нашага народу, ня прыходзіцца выказвацца за тыя ці іншыя комбінацыі над зямлею, на якой мы становім большасьць. Мы бясьсільны цяпер пашкодзіць гэтым комбінацыям, бо ня маем ні ўласнай дзяржаўнай тэрыторыі ні войска. Але мы верым, што як бы ні вырашана была цяпер справа Віленшчыны і Горадзеншчыны, усе роўна — гэтае вырашэньне, будзе толькі часовым бо яно робіцца без беларусаў.

Ня толькі Літва і Польшча маюць ў Віленшчыне і Горадзеншчыне свае інтарэсы. Кожны справядлівы палітык скажа, што беларусы больш за каго маюць у Віленшчыне і Горадзеншчыне грунту пад нагамі і, значыцца, зьяўляюцца рэальным фактарам жыцьця ў нашым краі. Усялякія падзелы Беларусі паміж Расеяй, Польшчай і Літвой—зьявішча часовае. Дагаворы аб паддзелах Беларусі для нас неабавязковы, бо ніхто ня мае права дзяліць чужое дабро, чужую зямлю.

На Бруксэльскай конфэрэнцыі будуць спорыць Польшча і Літва. Чаму ня будзе Беларусі, чаму нашага голасу ня будуць слухаць? Гэта несправядліва!

## Мір „порозуменя“.

Так амаль ня ўсе клюбы Польскага Сойму, называюць мір, падпісаны 18 сакавіка ў м. Рызе. Мір паразуменьня-добравольнай згоды абедзьвюх старон. Зусім ахвотна і згодна з пажаданьнямі народаў абедзьвюх дагаварываючых старон, урады Польшчы і Савецкай Расіі, Савецкай Украіны і ад імя Савецкай Беларусі, згодзіліся падпісаць усе 26 пунктаў мірнага дагавора. Вельмі цікава: Чаму-ж гэта так не папробавалі урады абедзьвюх старон яшчэ ў сакавіку 1920 года дайсьці да такога, згоднага з жаданьнямі зацікаўленых народаў, паразуменьня ў Барысаве, або у верасьні у Менску, нат' ўрэшце ў канцы 1918 года, калі яшчэ зусім не пачыналася зачэпная вайна між адрожаемай Польшчай і Савецкай Расеяй. У 18 годзе польскія левыя полытычныя кірункі не хацелі пачынаць вайны з Савецкай Расеяй, але вось праціўныя кірункі на жаданьне Антанты ішлі на падмогу Дзенікіну, каб скінуць бальшавікоў і памірыцца з Урадам «праўным» у Расеі; не прызнавалі ураду Савецкага і не разумелі зусім, што Польшча можа падпісаць дагавор з Саветамі. Тым часам Галоўнае камандаваньне Польскімі варужнымі сіламі задалося мэтай дасягнуць граніц 1772 года. І вось „правіца“ і цэнтр зусім сышліся у тым, што вайна павінна быць, без яе не абойдзецца, толькі ня сышліся ў мэтах гэтай вайны; наперад між сабой не дагаварыліся, за што будуць ваяваць. Адзін кірунак, маючы мэтай памагчы Дзенікіну, другі-мэтай граніцы 1772 года — пачалі Польска-Расейскую вайну.

Адразу пайшло добра, праз паўгода вайны польскі жаўнер ужо стаяў пад Бярэзінай. Савецкі урад прапануе мір. Як жа гэту прапазыцыю прыняць, калі правыя групы яшчэ ня справіліся памагчы адрадзіць Расею (Дзенікін ужо быў разьбіты) а цэтнр не дашоў да граніцы 1772 года. Хаця яшчэ тады, як правіца так і цэнтр, мелі вялізарную веру ў здейсьненьне сваіх, па свойму разумных, мэтаў, даказам чаго быў разрыў перагавораў аб места Барысаў; аднак, добра зразумелі, што ў мэтах вайны між імі існуе розьніца, каторая выклікала варожы настрой між адным і другім кірункамі. Гэты варожы настрой так далёка пашоў, што сама вайна, як спосаб дзеля зьдзейсьненьня розных мэтаў, пашла на другі плян. На першы плян між правіцай і „Бэльвэдэрам“ выступіла барацьба за мэты вайны. Скуткам гэтай барацьбы зьявілася тое, што жаўнер польскі, няведаючы, чаму ён павінен піць ваду з Дняпра, або чаму яму патрэбна ісьці ў Расею зьмяняць урад, мусіў вярнуцца да Бугу ды яшчэ з вялікім імпэтам.

Мяняецца польская палітыка, і Польскі урад высылае сваіх делегатаў у Менск, каб ўратаваць Польшчу ад бальшавіцкай навалы і памірыцца з Саветамі. Мір ня клеіцца; Саветы не згаджаюцца, хочуць Польшчу зрабіць Савецкай Рэспублікай. Фронт ізноў мяняецца, і бальшавікі вельмі сьпяшаюцца падпісаць прэлемінарны мір з Польшчай і заўзята перакідаюць свае сілы на Врангеля. Врангеля зусім выкідаюць з тэрыторыі Расеі, парадак у чырвонай арміі папраўляецца-скуткам чаго саветы знарокам зацягіваюць падпісаньне аканчальнага міру з Польшчай і пэўне, каб не «Кранштадт», паустаньні ды ні агульная разруха ў Расеі, на Украіне і Беларусі, яшчэ можа-бы і ні падпісалі гэтага міру «порозуменя».

З усяго мы бачым, якая гэта пажаданая для абедзьвюх старон і дабравольная згода урадаў, дасягнута гэтым мірам паразуменьня. Аднак, у 1918 годзе, калі, яшчэ вайны ня было, абедзьве староны гэтага паразуменьня не папрабавалі зрабіць і нат' не хацелі пачынаць яго. Ад гэтага паразуменьня ў Барысаве Польша адказалася; узноў у Менску Саветы не хацелі мірыцца з «буржуазным» Польскім Урадам—хацелі бяз міру сядзець у Варшаве.

Сусім ясна, што Рыжскі мір ня ёсьць мірам паразуменьня, мірам дабравольнай згоды усіх зацікаўленых старон; гэты мір чуць-чуць склеіўся і толькі дзеля таго, што абедзьве старсны зўсім змучыліся вайной, толькі дзеля таго, што Савецкі урад ня можа фізычна вясьці гэтай вайны, толькі дзеля таго, што у палітыцы Польшчы дагэтуль ня было аднаго выразнага, шчырага і здаровага кірунку, толькі дзеля таго, што абедзьве староны былі змушаны мірыцца. Міручыся толькі на паперы, абодва урады асталіся між сабой ворагамі. Асталіся ворагамі навет дзеля таго, што не заключылі міра дэмакратычнага, абапёртага на волі народаў, як гэта, для камэдыі, напісалі у прадмове мірнага дагавора—а падпісываючы штучныя, нямаючыя пад сабой ніякага фундамэнта варункі мірнага трактату, залажылі пачатак для новай вайны у блізкай будучыне.

Ня гледзючы на тыя, вельмі розныя фазы, якія перайшла Польска-Савецкая вайна, а ў зьвязку з ёй перамены палітыкі абедзьвюх старон, як Польшча, так і Расея варункамі Рыжскага міру паказалі ўсяму сьвету, што яны і дагэтуль яшчэ мала зразумелі і разумеюць вартасьць мірнага дагавора, падпісанага у Рызе 18-га сакавіка 1921 году.

**Адам Вітт.**

# Заварожанае кола *)

**(Пытаньне ў справе арганізацыі і фармаваньня беларускіх аддзелаў).**

22 кастрычніка 1919 года быў выдадзены Начальнікам Польскае Дзяржавы дэкрэт аб арганізацыі і фармаваньні беларускіх аддзелаў.

Гэты дэкрэт, здабыты цяжкімі высілкамі палітычнае працы некаторых беларускіх дзеячоў, быў сустрэчаны ў той час з задавальеньнем амаль што ня ўсім (? Рэд.) беларускім грамадзянствам, бяз розьніцы палітычнага колера і арыентацыі, і вітаўся ня толькі беларускімі вайсковымі арганізацыямі, істнаваўшымі тады ў Вільні, Горадні і Менску, як акт, даваўшы магчымасьць вайсковым асобам скарыстаць свае спэцыяльныя пазнаньні на працу для бацькаўшчыны, але і ўсей (? Рэд.) беларускай прэсай святкаваўся, як гістарычны пачатак правядзеньня у жыцьцё таго, забытага цяпер, лёзунга—«вольнага—з вольнымі і роўнага—з роўным», які войскі п. Язэпа Пілсудскага нясьлі на сваіх штандарах, уступаючы на тэрыторыю Беларусі.

Гэтакі настрой з вялікімі спадзяваньнямі і вѐраю ў шчырасьць дэкрэта досіць доўгі час панавалі сярод беларускіх установаў і грамадзянства у Віленшчыне, Гарадзеншчыне і Меншчыне.

З Гэтакім настроем распачала сваю працу і Беларуская Вайсковая Камісія, у лістападзе 1919 г. ў Менску.

Жадаючых залічыцца ў Беларускае войска афіцэраў і жаўнераў заявілася шмат — навет з польскага войска пасыпаліся заявы аб пераводзе ў свае нацыянальныя часьці, і дзеля гэтага адразу работы было досіць і праца закіпела. Нарады сяброў Б. В. К. пачалі адбывацца амаль што ня два разы ў дзень. Пёры заскрыпелі, машынкі застукалі. Не хапала часу. Пан Павел Аляксюк проста-такі ня вылазіў з цягніка, каб апынуцца тамака, дзе патрэбавалі справы...

І здавалася, што вось, вось... і пачнуць адзін за другім выступаць на фронт беларускія часьці, дзе побач з брацкім польскім народам, як «роўныя і вольныя», распачнуць барацьбу з агульным ворагам...

Прайшло поў года... На ўсходзе згушчаліся чырвоныя хмары і, калі ні калі, ужо даносіліся гукі бальшавіцкага пяруна. Прыбліжалася бура...

Сучасны мамэнт патрабаваў рэальных вынікаў працы Б. В. К. і штаба. Беларусь чакала слоў, не чарнільнае працы, а арганізацыі пэўнае, фактычнае абароны свае бацькаўшчыны. Грамадзянства непакоілася і пазірала на Б. В. К. і на штаб камандуючага.

А тамака... тамака, акрамя культурна-асьвятовае працы, як курсы беларусазнаўства для афіцэраў і пераклада статутаў, у сэнсе арганізацыі аддзелаў беларускіх ня зроблена было абсалютна нічога—штабам камандуючага не сфармована ніводнай шыхавой адзінкі; на паветах ніводнага вербунковага агента, ніводнага вербунковага камісара. Афіцэры (каля 200)—гэта галаўная аснова будучае арміі—ніводны не зацьверджаны, і ўсе знаходзіліся, быццам у паветры, і дзеля гэтага ня мелі ні пасады і не адтрымлівалі ні пайкоў, ні пэнсіі, ні апратак. Толькі мабыць нацыянальная ідэя і вера ў сьветлую будучыну бацькаўшчыны змушалі іх бязмоўна падпарадкавацца распараджэньням Б. В. К. і штаба і галоднымі і абдзёртымі адбываць курсы беларусазнаўства і распачатую ўжо тады вайсковую муштру. Але і яны началі ўжо непакоіцца.

Ня былі супакойны і самы сябры Б. В. К. разам з камандуючым і у іхняй працы ўжо чулася неякая нэрвовасьць і ім ужо здавалася, што нешта ёсьць гэтакае, што трэба спыніць і яны ужо бачылі, што справа арганізацыі і фармаваньня папала у неякае заварожанае кола, з якога ня можа выйсьці і круціцца ўвесь час на месцу.

Пачалі шукаць выхада... Як раз ў гэты час, скончыўшы свае справы ў... Познані, на хвілінку затрымаўся і вылез з цягніка сам пан Павел Аляксюк, заўсёды з'яўляўшыйся ў крытычныя мамэнты жыцьця і працы Б. В. К., каб ратаваць дрэннае становішча. І ён быў гэтак сама ў страшэнна абураным настроі і агулам незадаволены ўсей працай сяброў Б. В. К., а асабліва камандуючым, і казаў, што навет і ў Варшаве дзівуюцца, што да гэтага часу нікога не сфармована... Пачаліся спрэчкі, вінаваčаньне адзін аднаго. Розум даў дарогу нэрвам... і нарэшце—камісія перавыбрала прэзыдыум, а камандуючы падаўся ў адстаўку. Здавалася, што выхад знайшлі... Гэтак закончыўся першы час фармаваньня беларускіх аддзелаў.

(*Працяг будзе*).

*) Друкуецца як спецыяльны і инфармацыйны матар'ял.

# Апраўізацыя Сярэдняй Літвы.

Апраўізацыйнае становішча Сярэдняй Літвы ў 1920 годзе была дужа цяжское, дзякуючы, глаўным чынам, дужа нявыразнаму становішчу палітычнаму. Быў час, калі самі прадстаўнікі урада Сярэдняй Літвы, у пастаці Часовай Камісіі, ня ведалі, ці можна беспасрэдна адпраўляць тавары ў Вільню з Варшавы ці не. Гаварылася тады аб тым што як быццам у Лідзе сядзіц Кантрольная Камісія Лігі Народаў, якая кантралюе што вязецца у Вільню, а ў той час яшчэ не адважываліся у Варшаве рабіць яўную дапамогу ураду генарала Жэлігоўскага, рабілася ж гэта пад відам розных дароў: Пазнанскіх, Варшаўскіх і г. д. Адсылка навет вагонаў з таварамі, купленымі арганізацыямі, рабілася толькі да Ліды, адкуль вагоны перасылаліся ў Вільню. Відочна, гэткі парадак многа карысьці даваць ня мог, а гандал прыватных асоб, быў настолькі цяжкі, што мала хто і адважываўся. Такім чынам граніца Сярэдняй Літвы з Польшчай хоць і ня была зачынена саўсім, але дастаўка тавараў ня магла разьвярнуцца як мае быць.

Адначасна, як палітычная становішча высьвятляецца, граніца з Польшчай адчыняецца саўсім, перастаюць гутарыць аб кантроле у Лідзе Лігі Народаў, і вагоны з таварамі дазваляецца адпраўляць проста у Вільню. З гэтага часу становішча Віленшчыны у змысьле апраўізацыі значна паляпшаецца. У гэты, як раз, час, у сьнежню 1920 года, прыватны капітал ужо атрымлівае магчымасьць працаваць, разварачывае свае закупкі шырока, і лік вагонаў прыбываючых на ст. Вільню значна павялічываецца з кожным месяцам.

Урадам Сярэдняй Літвы ужо быў арганізаваны асобы Дэпартамэнт Апраўізацыі, на чале якога стаў пан Вацлаў Івраноўскі. Правы гэтага Дэпартамэнту адразу выразна вызначаны ня былі, і спачатку было пытаньне, ці свабодны гандаль будзе дапушчаны, ці Дэпартамэнт будзе рабіць нормiроўку? Хоць і быў абвешчан свабодны гандаль чуць не з самага пачатку, але фактычна яго ня было, бо дача дазволаў на ўвоз і вываз Дэпартамэнтам Апраўізацыі у кожным выпадку асобна ужо ня ёсьць свабодны гандэль. Цяжка пры гэткіх парадках наладжывалася дастаўка тавараў у Вільню, але патроху ўсё болі і паўней задавальняліся і, ў сучасны мамэнт мы бачым, што вострасьць недахваткаў прайшла, у край увезена шмат розных тавараў і прадуктаў, хоць цэны на іх высокія.

Калі застанавіцца троху далей на працы Дэпартамэнту Апраўізацыі, дык можна ўвідзець, што становішча яго спачатку і даконца была дужа цікавае. Калі была найбольшая патрэба у прадуктах, спачатку істнаваньня Дэпартамэнту, тады ў яго ня было грошы ў такім ліку, каб можна было-б задаволіць патрэбы жыхараў Віленшчыны. Таго жалкага капіталу ў некалькі мільёнаў польскіх марак, які меў Дэпартамэнт, не хапала і на Вільню, ня толькі што на ўсе паветы, а паветаў у той час яшчэ было болей, чым цяпер, дый паветы былі большыя. Тады тэрыторыя Сярэдняй Літвы яшчэ ня была так акарначана, як гэта мы бачым у сучасны мамэнт. Трэба было задавальняць вялікі лік жыхараў, а тымчасам граніцы са ўсіх бакоў былі зачынены (Расея, Лацьвія, Літва) а на дарозе ў Польшчу хтось сядзеў у Лідзе і ўсяго не дазваляў прывазіць у Вільню. Ня маючы сваіх грошы, Дэпартамэнт пачаў ад свайго імя даваць прыватным гандлярам дазволы на ўвоз, але браў ад іх па ўласнай вартасьці прывезеных тавараў да аднэй трэці ўсяго ліку тавараў. Гэта мера дужа мала чаго давала, бо на застаўшыйся ў прыватных гандляроў тавар яны накладавалі ўсе страты і свой зарабатак. Другога выйсьця не заставалася, каб знайсьці ўласны капітал — Варшава тымчасам зрабіла новыя асігноўкі для Дэпартамэнту Апраўізацыі, вызначыла норму манапольных прадуктаў: солі, карасіны, хлеба і цукру на Сярэднюю Літву, і калі гэты прадукты пачалі прыбываць па дужа таннай манапольнай цане, дык Дэпартамэнт робіў вялікія налічэньні, і такім чынам робіў сабе патрэбныя зваротныя капіталы.

Як толькі ў Дэпартамэнта завяліся свае, ужо дужа значныя грошы, сотні міліёнаў, ён пачаў робіць шырока розныя куплі прадуктаў. Ня будзем заглядаць у тое, ці ўдачны былі гэтыя куплі ці не, але застановімся на тым, у што пераробіўся Дэпартамэнт. На чале яго стаў сьвядомы у нашым краі апраўізатар п. Бабянскі з вялікай мінуўшай падгатоўкай, але ні разьвярнуць свае здольнасьці, ні правадзіць сваей праграмы ён ня мог, бо вінен быў робіць тое, што трэба было для палітыкі, што дыктавалі з гары, — і гэта рабілася, бо другога выйсьця ня было... Замест таго, каб абаперціся на мясцовыя грамадзскія арганізацыі якімі зьяўляюцца коопэратывы, дужа блізка падходзячыя да апраўізацыйных установаў па сваім мэтам, апірацца прышлося на установы, якія вызначаліся з гары. Падзел нормаваных прадуктаў стаў аддадзены магістрату, замест сялянскіх коопэратываў — гмінам.

А ужо вядома, калі у экономіку уціскаецца палітыка — нічога добрага ня будзе. Дэпартамэнт Апраўізацыі ўсё выразьней змушаны станавіцца на плацформу палітікі; пааўчраць адны коопэрацыйныя установы і глядзэць крыва на другія, разлічая іх на: польскія — з аднаго боку і на ўсе іншыя з другога, пры гэтым першыя зьяўляюцца улюбынамі сынкамі, а другія пасынкамі.

Да апошняга часу, напрыклад, Віленскі Саюз Коопэратываў дастаўляў з Вялічкі норму солі для Сярэдняй Літвы па 100 вагонаў у месяц. З сьнежня месяца да гэтай пары было дастаўлена да 400 вагонаў солі. Голад саляны згінуў саўсім. А цяпер Дэпартамэнт, кіруючыся глаўным

# Даволі сьлез.

Годзе пець песьні нам сумныя, нудныя,
Краю даволі ўжо сьлёз! . .
Ўжо прамінулі нязгоды пакутныя,
Плачам ня зьлегчым свой лёс.
Дні паднявольныя болей ня вернуцца,
Эх, не надзенуць нам пут. . .
Хай хто паважыцца, хай хто намерыцца,—
Сам імі будзе ён скут!
Помста — мінулых дзён катам і ворагам,
Больш ня пацерпім мы слот:
Ў бойку рашучую выступіць зможам мы.—
Наш прабудзіўся народ.
Волю здабытую кроўю, ахвярамі
Хай хто захоча адняць. . .
Край наш зруйнованы бойкай, пажарамі
Болей ня будзе стагнаць . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . .
Толькі шкадуе нас сонца вагністае,
Сьвеціць цалюткі нам дзень,
Грэе гушчары, балоты імшыстыя
Новы іскравы прамень.
Ў кузьнях рабочыя, ў полі аратыя
Моцныя ўсе, як адзін. . .
Песьня іх гучная, сэрца ўсім кратае,
Чуеце: «Гэй! . .» і «Дзінь-дзінь! . .»
Песьня вясёлая. . . Праца марудная. . .
Брат наш ня гэтулькі зьнёс. . .
Годзе пець песьні нам сумныя, нудныя,
Краю даволі ўжо сьлёз! . .

4/IV—21 г. **М. Чарот.**

* * *

Мы любім даўныя паданьні,
Быліцы сівых песьняроў:—
Няхітры іх апавяданьні
Аб справах зьбегшых ўжо часоў;
Нам да спадобы чэрпаць веду
Гісторыі з пажоўклых кніг;
З рукопісаў пра быт прадзедаў
Даведацца, што сведчыць мніх;
Прыемна нам дзядоў надзеі,
Іх тайны думы адзначаць,
Вялікія у прошлым дзеі,
Дзе й як змагалась наша рацъ;
Шануем мы бацькоў імёны:
Навука й прыклад нам яны
І помніма і веча звоны
І возьнасьць нашай стараны;
І нат' мамэнты заняпаду
— У мінулым сумныя лісты—
Распазнаваць нас вучаць зраду
І родзяць помсты гнеў святы.
Але нам будуць ўсе-ж мілейшы
Часы, калі з нізін балот
З надзеяй ў шчаснасьць дзён, святлейшых
Ўстае абуджаны народ.
Нявідна шчэ у завірусе,
Куды ляжыць ягоны шлях,
Але дух творчы ў Беларусі
Жыве й змагае жыцьця жах.
І можа толькі той збаіцца
Падзей вялікіх нашых дзён,
У кім жыцьця ня б'е крыніца,
Хто сьпіць і здолець не дуж сон.

1921 **Валадзімер Жылка.**

# Балотніца.

Хто там так плача, хто прычытае,
Мучыць душу уначы пачынае
Стогнуць сасонкі, стогнуць асіны,
Рэха нясецца лясамі нізіны...
Лес адгукаецца шумам жальлівым,
Песьняў адвечных глухім пералівам,
Хваляю гукі нясуцца, сплываюць,
Гдзесьці за цёмным балотам зьнікаюць...
Хто-ж там так плача, хто прычытае,
Мучыць душу у начы пачынае?
Высака месяц у небе халодным,
Ў доўгім болоце за полем бязплодным
Паміж чаротам, як срэбра, вадзіца
Сонна у месяца косах іскрыцца.
Ўсе берагі парасьлі купіною,
Стромкім чаротам, лазой, асакою,
Белыя кветкі лілейкі—княгіні
Пышна ў вадзе распусьціліся сіняй...
Тускла зіяюць балота ваконцы.
Плесьня, вада, травы—ўшыркі бяз конца,
Удоўжкі ізноў—то чарот палахлівы,
Травы густыя, то—хваляў адлівы.
Жудасна ўночы над сонным балотам:
Ночка туліцца, шапоча з чаротам,
Лашчыцца к хвалям малочным тумана,
Горка уздыхае—ці позне, ці рана.
Часам, а поўнач, калі асабліва
Месяца яркі ў вадзе пералівы,
З ціны балотніца ціха выходзіць,
Песьню—жальбу—прычытаньне заводзіць
Сядзе у чашачку белай лілейкі,
Спусьціць галоўку і тонам жалейкі
Сумна—маркотна зальецца, зальецца,
Рэха па лесе маўклівым нясецца.
Вочы балотніцы блескам таёмным
Вабяць к балотным ваконцам паўцёмным,
Нібы зяленыя зоры іскрацца,
Глянеш—і сілы няма адарвацца.
Косы зялёнаю хваляю ўюцца,
Ў сьцэблях чарота заблутаўшысь, рвуцца,
Шыйкі бялейшай ня бачылі людзі,
Белае цела, тачоныя грудзі...
Ногі вуціныя ў кветцы схавае,
Грэшныя думкі ў душы пахавае,
Плача балотніца, плача—сьмяяцца
Сэрцайка быццам канаець, ірвецца.
Толькі ня можна ёй верыць, бяздумнай,—
Ў ціну прывабіць і ночкаю душнай,
Ціха сьмяючыся, за рукі схопіць,
Гледзючы ў вочы, задушыць, утопіць...
Хто-ж там так плача, хто прычытае,
Мучыць душу уначы пачынае?
Гэта балотніца плача—сьмяецца,
Рэха па лесе маўклівым нясецца.
«Ой, цяжкая мая доля, горкая,
Загубілі мяне вочы ясныя,
Вочы ясныя, косы доўгія,
Сэрца вольнае ды гарачае,
Загубіла я сваю моладасьць
Веру страціла, сілы страціла,
Я адна была з сваім сэрцайкам,
З маладой душой, што хацела жыць.
Не сьпякло мяне ясна сонейка,
Не зламаў віхор у васеньню ноч,—
Загубіў мяне чорнабрывы мой,
Жартаваў, гуляў з маладой душой,
Жартаваў, гуляў, а пасьля пайшоў,
А я плакала, разьлівалася:
„Ды куды-ж пайду, куды дзенуся,
Да каго цяпер прыхінуся я?
Ці-ж цябе ня любіла, ня лашчыла,
Пацалункаў табе шкадавала мо'?
А дубочак ты мой зялёненькі,
Ня кідай мяне, пашкадуй мяне!»
А бяда мая, бяда горкая,
А і выбрауся ён у далёкі край,
А ў які той край—і ня ведаю,
У далёкую, у староначку.
Ня было як жыць—насьміхаліся,
Нада мной усё надругаліся—
Не ў царкве з папом панахвіда йшла,
Матка плакала над дачушкаю,
Вецер выў, стагнаў у старым бары,
Дробны дождж ішоў над сырой зямлёй.
І знайшла сабе сьмерць вядомую,
Ночкай кінулася у возера...
А і цяжка-ж мне маладчэнькай тут,
Няма радасьці сэрцу беднаму,
Нібы птушачка, ўсё трапечыцца,
Аб зямным жыцьці вядзе гутарку...
Падыйдзі сюды, абыймі мяне,
Прытулі мяне да сваіх грудзей,

чынам, палітыкай, гаворыць саюзу, што абойдзецца і без саюзу. Як нам вядома, Саюз ня дужа і зацікаўлены гэтай сольлю, але цікавы самы факт.

Так ці інакш, глаўным чынам прыватным гандлем, горад і край цяпер заваленый хоць і дарагімі таварамі. Дзякуючы прамысловаму крызісу ў заграничных краёх, зазначылася спадка цэн на тавары і прадукты, і ўжо можна лічыць аправі зацыйнае пытаньне больш менш у Сярэдняй Ліцьве разьвязаным.

**Станіслаў Чыжэўскі.**



## Праца беларусаў у Адэсе.

Беларуская сэкцыя пры Аддзеле Асьветы, распачала сваю працу з сакавіка месяца 1920 года. Перш за ўсе было аднынена чатыры школы, якія пасьля перайшлі на пляцы. Спачатку справа востра стаяла з настаўнікамі, якія скэптычна пазіралі, як на справу адраджэньня маладой Беларусі, так і наогул на перабудову ўсяго на новы лад.

Але, ня гледзячы на гэта, невялічкі гуртoк беларусаў гэтак павёў сваю працу, што хутка можна было бачыць, што на нашы пляцы жадалі папасьці ня толькі беларускія дзеці, але й іншных нацыянальнасьцяў.

Паставіўшы мясцовыя пляцы на павінны грунт, было прыступлена да будаўніцтва дзіцячай калёніі. Ня гледзячы на цяжкае становішча таго мамэнту, калі дзецям прыходзілася адпачываць на падлозе й быць бяз вопраткі, калёнія ўсё ж такі была адбудавана. Пасьля гэта калёнія была пераймянована ў школу-камуну, якая і ў сучасны мамэнт па пастаноўцы ў ёй справы, дзякуючы добраму кіраўніку й настаўнікам, лічыцца першаю прыкладнаю школаю ў Адэсе. Увесь 1920 год быў гoдам арганізацыйным.

З першых жа дзён новага году сэкцыя пачала зварачваць увагу на пастанову справы так, каб такія вялікія прынцыпы, выкліканыя рэвалюцыей, як дзіцячае самакіраваньне, ручная й фізычная праца ва ўсіх відах і г. д., праводзіліся ў жыцьцё. На конт далейшай арганізацыі сэкцыяй выкарыстоуваецца плян, які ўжо пераносіць працу ня толькі на места Адэсу, а так сама й на паветы. У першую чаргу сэкцыя намеціла: Бірзулу, Тыраспаль, Нікалаеў, Хэрсон, і ў апошніх паветах па адшуканых вестках маюцца цэлыя вёскі, амаль што ня ўсе заселеныя беларусамі. На гетыя вёскі навет паказвае й Карскі. Прыехаўшыя адтуль паведамляюць, што гэтыя ўцекачы з сваёй краіны, ня гледзячы на доўгае іх жыцьцё там, захавалі свае звычаі, мову й гараць жаданьнем ізноў якнайхутчэй убачыць сваю змучаную бацькаўшчыну й клічаць да сябе настаўнікаў. Сэкцыя мае ў хуткім часе паслаць туды настаўнікаўбеларусаў.

У самым жа месьце Адэсе намячаецца вялікая праца. Ужо атрымана дазваленьне на адчыненьне другой школы камуны, а так сама яшчэ некалькі дзіцячых прытулкаў. Хутка ў розных куткох места будзе адчынена яшче некалькі працоўных школ. Настаўнікі пачынаюць разумець і прылучаюца да беларускай справы. У гэты час іх лічыцпа 50 чалавек. Дзеля іх, а так сама й для жадаючых працзваць у беларускіх школах, адчынены пры беларускім рабочым клюбе курсы беларусазнаўства.

Выкладаюцца навукі ў школах большаю часткаю на беларускай мове, хаця вялікая перашкода ў гэтым—адсутнасьцьбеларускіх кніжак.

І шмат з нашых настаўнікаў гараць жаданьнем пры першай магчымасьці прыехаць працаваць на родных загонах вольнае бацькаўшчыны.

**К—а**

## У лагеры інтэрнаваных.

Каля ст. Дарагуск, Холмскае губ., у бараках, аплеценых калючым дротам у колькі радоў і абстаўленых польскімі жаўнерамі па ўсіх кутох, знаходзяцца нашы беларусы,—інтэрнаваная 1-я Слуцкая брыгада стральцоў В. Б. Н. Рэспублікі.

І вось, ня гледзячы на тыя цяжкія варункі, у якіх знаходзяцца інтэрнаваныя: бяз вопраткі, без бялізны, босыя, ня маючы у кішэні ні аднаго рубля, ні аднае польскае маркі, працуючы з раніцы да вечара, як якія катаржнікі, ня ведаючы ні сьвята, ні будня,—усё-такі не забываюцца на сваю Бацькаўшчыну і яшчэ пашыраюць беларускасць, стараюцца паказаць гэтым тутэйшым людзём, што беларусы — народ і што гэты народ павінен жыць, як яму хочацца.

Інтэрнаваныя вельмі хораша паказалі сябе на йгрышчы, якое ставілі у нядзелю 17-га гэтага красавіка ў салі барака абозу інтэрнаваных, з дазваленьня камандзера абозу інтэрнаваных у Дарагуску.

Дзякуючы прыезду з адзела асветы артыста Б. К. В. п. Русака і вельмі прыхільным адносінам усіх афіцэраў і жаўнераў інтэрнаваных, праз колькі дзён падгатавалі і разыгралі на сцэне 2 камэдыі — «Міхалка» і «Па рэвізіі». Ня маючы ніякіх крыніц, адкуль можна дастаць усё патрэбнае дзеля сцэны, ўсё-такі зрабілі больш, чым можна было зрабіць, і паставілі спэктакль у хораша дэкарыраванай ельнікамі і хвоямі салі, на скора зробленай сцэне, пры поўнай салі людзей, якія, апрача запрошаных ганаровых гасцей, прышлі пацікавіцца на беларускі вечар, яшчэ у першы раз тут пастаўлены. (Тут былі, пачынаючы ад камадзера абозу п. палкоўніка, усіх тутэйшых польскіх афіцэраў з жонкамі і польскіх жаўнераў, штат цывільнае публікі, як жыдоў, так і тутэйшых грамадзян—украйнцаў).

Абедзьве камэдыі разыгралі вельмі прыгожа, і публіка ня магла падзівіцца, што інтэрнаваныя беларусы маглі так пекна выпаўніць на сцэне.

Найлепш выпаўнілі свае ролі, у камэдыі „Міхалка“ — пана Карыту паруч. Шурпа, Міхалку — жаўнер Самойлік, а ў камэдыі «Па Рэвізіі»—роль Пантурчыхі — кап. Залескі, пісара — п. Русак і старшыні паручн. Сямашка, і астальныя сыгралі вельмі добра. Але ня меншы настрой усім часьцям чым ігра на сцэне зрабілі сьпевы і дэклямацыя.

Хор пад кіраўніцтвам спрактыкаванага рэгента паручніка Сямашкі спoўніў некалькі нацыянальных беларускіх песень, сьпеўшы напачатак нашу марсэльезу, а пасля былі прадэклямаваны п. Русаком і некаторымі інтэрнаванымі афіцэрамі вершы Якуба Коласа, Янкі Купалы і Алеся Гаруна.

Па канцы ўсяго сам п. палкоўнік вельмі дзякаваў, што так добра выпаўнілі вечар.

Гэты вечар ад пачатку да канца насіў адпячатак шчырага каханьня ўсяго свайго роднага і паказаў, што мы людзі, што над намі ня можна сьмяяцца, што мы сыны цэлага народу, што гэты народ мае сваё прошлае, сваю мову, сваіх поэтаў, літэратуру, што гэты народ бязмерна шчыра кахае сваю Бацькаўшчыну.

**Ванагас.**

м. Дарагуск,
18 красавіка 1921 г.

### Песня інтэрнаваных 1 Слуцкай Брыгады стральцоў.

Равуць-стогнуць лясы, горы, шырокія полі,—
Плачуць-стогнуць беларусы ў чужацкай няволі.
Трацім тут свае мы сілы, церпім цяжкі мукі,
За што-ж, Божа мілосэрны, зьвязаў ты нам рукі?
Гэй вы, гэй вы, браты нашы, дзеці горкай долі,
Што ня йдзеце вызваляць нас з цяжкае няволі?

(Матыў—як украйнскай песьні «Рэвуть, стогнуть»...).



# Штодзенныя весткі.

*Пятніца*, 29 *красавіка* 1921 *г.*

— „Gaz. Por.“ паведаміла, што Францускі урад, азнаёміўшыся з літоўскім і польскім праэктамі разьвязаньня віленскага пытаньня, лічыць за найлепшы спосаб федэрацыю.

— Забастоўка ў Англіі яшчэ ня скончылася, але ўжо абедзьве староны, як чуваць, прыходзяць да згоды.

— Італьянскія войскі занялі гор. Фіуме. Урад Рэкі здаўся.

— Нямецкі Урад згаджаецца заплаціць саюзьнікам 50 міліярдаў марак золатам.

— Прэзыдэнтам Эстонскай рэспублікі выбраны п. Пуста, б. пасол у Парыжы.

*Субота*, 30 *красавіка* 1921 *г.*

— Міністар Пурыцкіс у літоўскім сойме заявіў, што перадача Вільні Ліцьве блізка што забясьпечана. Літву падтрымлівае Ліга Народаў. Польшча, быццам, больш цікавіцца В. Сілезіяй. Літва-ж з свайго боку абавяжацца не нападаць на Польшчу і прадаставіць ёй розныя эканамічныя выгады.

— „Расейска-польскі кружок“ у Варшаве выпусьціў адозву, у якой бароніць рыжскі мір і кажа, што ён ня скірован проці Расеі, бо Польшча стаіць далёка ад імпэрыялістычных мэт.

— Польскі буджэт на 1921 г. складаецца з гэткіх цыфраў: 60 міліярдаў марак даходу, 220 выдаткаў; дэфіцыт—160 міліярдаў марак. „Gaz. Por.“ піша, што гэткі буджэт надта падобен да савецкага.

— **Паведамляюць нібы-та з Менску, што бальшавікі арганізавалі ў Смаленску Літоўскую камуністычную армію ў складзе 8 тыс. чаловек. Разам творыцца гэткая-ж і Беларуская армія, для якой ужо мобілізована 16 тыс. чалавэк.**

— 15 красавіка Літоўскі „камітэт нацыянальнай абароны“ вы-

Цалаваць цябе буду горача,
Ажна да зары, зары ранічнай...“
Плача балотніца, плача—сьмяецца,
Гора таму, хто на плач адгукнецца:
Сьмерць сваю знойдзе ў балоце заглохшым,
Вострай сакою, чаротам паросшым...
Цэлую ноч над даверчывым рвацца
Будзе балотніца й плакаць—сьмяяцца.
Кажуць так людзі, а хто яго знае,
Хто у балотах лілейкі зрывае,
Хто з іх сплятае прыгожа вяночкі
У душныя, мляўкія, летнія ночкі?
Хто там так плача, хто прычытае,
Мучыць душу у начы пачынае?
Стогнуць сасонкі, стогнуць асіны,
Рэха нясецца лясамі нізіны,
Лес адгукаецца шумам жальлівым,
Песьняў адвечных глухім пералівам,
Хваляю гукі нясуцца, сплываюць,
Гдзесьці за цёмным балотам зьнікаюць..
Кажуць так людзі, а хто яго знае,
Хто там адчай у сьлязах вылівае...

1921. *Наталья Арсеньнева.*



## Маленькі фельэтон.

### Дагадаліся.

*Настаўнікі Чарнінскай воласьці Бабруйшчыны, напужаныя арыштамі беларускіх эсэраў, падалі ў Бабруйскі беларускі пад'аддзел заяву, што іх воласьць гаворыць на «велікорускомъ языке».* (*з газет*).

Школа, дзе мусіў адбыцца надзвычайны збор настаўнікаў, стаяла на адгоне мястэчка. І перад вечарам у нядзелю, хто цікавы, мог бачыць, як настаўнікі і настаўніцы, пакрыху, засьцярогаю, рознымі сьцяжынкамі прабіраліся к ёй. Кожны йшоў і вакол азіраўся. Дзьверы ў школе адчыняліся імі з найвялікшай далікатнасьцю, бяз скрыпу, бяз стуку. Уваходзілі па адным, па двое, ківалі галавамі ў знак прывітаньня і урачыста маўчалі. Потым падасьпеў змрок. Нейкай таемнасьцю напоўнілася школа. Толькі-б гаварыць пры гэткім становішчы аб красках, гаёх, аб маладой каханай дзяўчыне, аб соладкасьці першых любошчаў. Дык не, справа ня гэтага вымагала. Настаўнікаў гнала сюды бязвыходнае становішча за дзесяткі вёрстаў, з усёй воласьці. Патрабавалася самаахвярнасьць — іначай нельга падыйсьці к справе. Куды-ж там да салодкіх мар, куды там да поэзы! Хмуры выгляд казаў аб бядзе, аб вялікім горы, аб надзвычайным здарэньні. Кожны настаўнік чакаў урочнага часу, ад якога залежыў яго лёс...

— Ну, адчынім пасяджэньне! — ціха праказаў сьмялейшы з іх, калі стала добра цёмна й набралася да пятнаццацёх чалавек настаўнікаў.

— А агонь? як мы з вагнём?—пачуўся шопат.

О, не, не, не! немажліва-а а!—запратэставала некалькі з іх. — Яшчэ ўласьць убачыць—тады...

— Так, так, так... Ні шуму. ні стуку, браткі... Сьціш падышла—нячуваная.

— Сымон хай будзе старшынёю,—падказаў хтось.

— Прынята!—згадзіліся ўсе.

Пісарам выбралі Янку Карася.

Прашло колькі хвілін.

— Дык вось, браткі, — пачаў старшыня:—сёньня мы зышліся сюды, каб парашыць, як выйсьці з нашага цяжкога становішча. Далей немажліва чакаць. Беларускі пададдзел шле цыркуляры, інструкцыі, прыказы аб адчыненьні беларускіх школ, аб навучаньні пабеларуску... а, з другога боку, мы бачым, беларусаў арыштоўваюць. Вось у Бабруйску дык ужо па трэцьцім разе заарыштавалі. Заарыштуюць, патрымаюць, выпусьцяць, а потым ізноў заарыштоўваюць...

— А ў нас старшыня іспалкому так сама грозіўся ўжо...

— Што-ж рабіць? як выйсьці з гэтае бяды?—запытала некалькі галасоў.

— Вось і трэ' падумаць, — парадзіў старшыня сходу. Усе замаўчалі і сталі думаць. Многія хапіліся рукамі за лабы, другія прыгнулі галавы да стала; трэція паднялі вочы ўгару. Каб прыслухаўся, то чуў бы, як працавалі мазгі, як шапаталі думкі.

— Чорт іх ведае—выдумалі гатае беларуства, а цяпер мучайся, адказвайся.

— Чым ты адгаворышся, ліха іх ведае,—злаваў у голас другі.

— Але,—дадаваў трэці:—ня скажаш жа ты, што не беларус, калі запраўды беларус.

— І сорамна сказаць, што ня ведаеш пабеларуску, — казаў чацьверты; — як-то можа быць, вучыцель ды ня ўмее пабеларуску, ды штож ён умее?

— Ня даць рады... Хоць бяры ды разыходзься па хатах.

Узрастаў няцерп. Брала ўсіх злосьць. Шопат перайшоў да галоснай гутаркі. Чулася набліжэньне канчатку схода бяз усякіх скуткаў. Але ніхто не хацеў гэтага. Кожны пазіраў на суседа, а мо' ён што выдумаў...

Так прашла доўгая-доўгая, катуючая гадзіна.

— Хлопцы!—раптам выгукнуў адзін—я знаю, што зрабіць...

— Што? што? што? Скажы, браток, хутчэй!—кінуліся да яго ўсе чарадою.

— А вось што: давайте напішам, што нашы сяляне ня умеюць гукаць пабеларуску. Уся воласьць гамоніць па велікарасейску-у... Хай там, як хочуць судзяць у Бабруйску, а то наша агульная заява й мусяць лічыцца...

— Во, во, во! Ай, яй, як добра як спрытна!—пачуліся выгукі й воплескі:

— Пішы, Янка, у пратакол, — падказаў старшыня.

— Напэўне,—дадаў ён, — лепш быць велікарасейцам ды сядзець вольна, ніж беларусам ды ісьці пад арышт.

Але яго слоў ніхто ня чуў. Узрадаваныя, бы ярмо спала з іх, гукалі настаўнікі між сабою, хвалячы выдумшчыка.

— Заўтра-ж паслаць у павятовы пад'аддзел, а копію ў валіспалком... Не забудзься, Янка!—адзін за другім напаміналі сэкратару сябры сходу. А Янка Карась, матаючы галавою, адказваў

Ня йначай! Няй-на-чай! Няй-на-чай! Уся воласьць гавора павелі-карасейску.

Пэўне-пэуне, так і гаворыць... Хай ведаюць у Бабруйску і супакояцца падканец. Няй-на-чай, няй-на-чай!

— Во й дагада-а-лі-ся-а!

**Авадзень.**

(«Савецкая Беларусь»).



